



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

5 кастрычніка 2018 года №40 (1223)




## Калі ў рэгіёне будуць кірмашы?



старонка 2


ISSN 1991–7155

40

9 771991 715006


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# «Каларытненька». Як у Маладзечне зладзілі свята вуліцы

**Супольнасць актыўных гараджан арганізавалася і падрыхтавала свята за некалькі тыдняў**

старонка 20

Фота Таццяны САФОНАВАЙ.

## Віляйчане збіраюць грошы на Казіны мосцік. Трэба 3 800

ВІЛЕЙКА

Актывісты Вілейкі працягваюць збіраць грошы на аднаўленне Казінага мосціка праз Вілію.

У канцы мінулага года «Рэгіянальная газета» пісала, што вілейскі прадпрымальнік **Віталь Малыш** збірае грошы на аднаўленне мосціка. Для гэтага ў магазінах горада размясцілі спецыяльныя скрыні.

Віталь планаваў аднавіць мосцік летам гэтага года. Аднак не атрымалася: на мосцік трэба 3 800, а ў скрынях пакуль не больш за 10 працэнтаў ад патрэбнай сумы.

Віталь і яго аднадумцы лічаць, што мосцік – сапраўдная гістарычная славутасць Вілейкі.

Таму віляйчане па-ранейшаму могуць далучыцца да збору грошай. Іх можна пакласці ў адну са скрынь, што ёсць у вілейскіх крамах. Або перавесці на картку 5392 1458 5732 3354 08/21 – у беларускіх рублях, 392 1470 0037 7147 03/21 – у долারах. Справаздачу пра пералічаныя грошы можна будзе пачытаць у групе vk.com/most_vilejka. Можна таксама напісаць асабістае паведамленне ў гэту групу, калі жадаеце перадаць грошы актывістам асабіста.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад кастрычніка ў музеі стартуе праект «Ценявы тэатр»

ВІЛЕЙКА

Ад сярэдзіны кастрычніка ў Вілейскім краязнаўчым музеі стартуе праект «Ценявы тэатр» – яшчэ адна інтэрактыўная форма працы для таго, каб зацікавіць наведнікаў.

– Нядаўна ў нас скончыўся праект «Ценявая батлейка», дзе галоўнымі героямі пастановак былі лялькі, – расказала «Рэгіянальнай газеце» дырэктар музея **Надзея Аўдзей**. – Цяпер удзельнічаць у пастаноўках будуць людзі – нашы супрацоўнікі. Такі тэатр называюць яшчэ «тэатрам за шырмай».

Па словах дырэктара, асноўнымі тэмамі п'ес стануць легенды і паданні Вілейшчыны.

Праект доўгатэрміновы. Разлічаны на тое, каб у цёплую пару года цёмным часам паказваць пастаноўкі пад адкрытым небам.

Вілейскі ценявы тэатр плануюць прадставіць на Міжнародным музейным форуме, што праўдзецца у наступным годзе ў Брэсце.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У мядзельскім скверы з'явілася Плошча сэрцаў

МЯДЗЕЛ

Новая плошча з'явілася ў Мядзеле да абласных «Дажынак».

Тут прадстаўленыя ўсе раённыя цэнтры Мінскай вобласці і Мінск.

Жыхары і госці горада ахвотна фатаграфуюцца на фоне сэрцаў, кажуць у Мядзельскім райвыканкаме.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Правядуць сустрэчу дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць»

МАЛАДЗЕЧНА

Тэма сустрэчы – «Маладзечна як брэнд». Яна адбудзецца 7 кастрычніка па Валынца 12-б, 1-1. Пачатак а 14-й.

Паразмаўляюць пра тое, ці ёсць твар у горада, як можна сфарміраваць унікальнасць Маладзечна.

Гасцямі сустрэчы будуць:

- **Маргарыта Лазарэнкава** з Мінска, заснавальніца арганізацыі Creative Belarus. Тэма: «Крэатыўныя гарады і рэгіёны: як крэатыўныя індустрыі ўплываюць на развіццё горада».
- **Дзяніс Лазарэнкаў** з Мінска, сузаснавальнік стартапа ў сферы інтэрнэт-маркетынгу SmartSub, выкладчык курса па Growth-Hacking ў Інстытуце IBA. Тэма: «Карысныя інструменты інтэрнэт-маркетынгу для прасоўвання гарадскіх праектаў і мерапрыемстваў».

**Аддзел інфармацыі.**

## Маршрут «Вілейка: ад мястэчка да двара» прэзэнтавалі на турыстычнай выставе

ВІЛЕЙКА

У Нацыянальным выставачным цэнтры «Белэкспа» ў Мінску 26-28 верасня ладзілі 25-ю Міжнародную турыстычную выставу «ТУРБІЗНЕС-2018». У ёй удзельнічала 12 краін.

27 верасня ў канферэнц-зале прэзентавалі новыя турыстычныя маршруты. Маршрут «Вілейка: ад мястэчка да двара» прадставіў Вілейскі краязнаўчы музей. Пра гэта паведамілі ў Вілейскім райвыканкаме.

З прэзентацыяй выступіла **Вольга Коласава** – старшы навуковы супрацоўнік музея.

**Аддзел інфармацыі.**

# Калі ў рэгіёне ўключаць ацяпленне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Паводле нормаў, ацяпленне ў сацыяльнай сферы ўключаюць тады, калі сярэднясутачная тэмпература на працягу пяці дзён складае дзесяць градусаў і ніжэй. У жылым комплексе – восем і ніжэй. Канчатковае рашэнне пра пачатак ацяпляльнага сезона прымае райвыканкам.**

### Калі падключалі ацяпленне мінулыя 5 год

**Маладзечна**

| Год | Дата падключэння сацыяльнага сектара | Дата падключэння жыллёвага сектара |
|---|---|---|
| 2018 | Ад 29 верасня | 4 кастрычніка |
| 2017 | 2 кастрычніка | 5 кастрычніка |
| 2016 | 10 кастрычніка | Няма звестак |
| 2015 | 7 кастрычніка | Няма звестак |
| 2014 | 6 кастрычніка | 16 кастрычніка |

**Вілейка**

| Год | Дата падключэння сацыяльнага сектара | Дата падключэння жыллёвага сектара |
|---|---|---|
| 2018 | 1 кастрычніка | 3 кастрычніка |
| 2017 | 3 кастрычніка | 6 кастрычніка |
| 2016 | Няма звестак | Няма звестак |
| 2015 | 7 кастрычніка | 9 кастрычніка |
| 2014 | Няма звестак | Няма звестак |

Ацяпленне ў сацыяльнай сферы ў Маладзечне і Вілейцы пачалі ўключаць у канцы верасня. Гэта бальніцы, дзіцячыя садкі, школы. Ад васьмі гадзін раніцы 2 верасня батарэі былі цёплыя ў музеях, бібліятэках, архівах. Маладзечанскі і Вілейскі райвыканкамы 3 кастрычніка прынялі рашэнне па жылым комплексе. Уключаць ацяпленне пачалі ад 4 кастрычніка. У Вілейцы – на дзень раней. Цягам трох сутак яно з'явіцца, але асноўную частку гарадоў падключаць за два дні. Пра гэта расказаў **Леанід Кузняцоў**, намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак па цеплазабеспячэнні.

Звычайна спачатку падключаюць ацяпленне ў сацыяльнай сферы. Гэта школы, дзіцячыя садкі, бальніцы. Затым падаюць цяпло ў жыллё.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Калі правядуць восеньскія кірмашы ў рэгіёне

**Ад верасня да лістапада ў рэгіёне ладзяць традыцыйныя восеньскія кірмашы. Што і калі сёлета прапануюць пакупнікам?**

### МАЛАДЗЕЧНА

Як паведаміла **Кацярына Страпко**, галоўны спецыяліст аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама, сельскагаспадарчыя кірмашы праводзяць кожны тыдзень па выхадных. Набываць агародніну, садавіну, саджанцы можна на плошчы Старое Места да 4 лістапада ўключна.

Рэгіянальны кірмаш адбыўся 29 верасня. Удзельнічалі 96 гандляроў, з іх 63 – фізічныя асобы. Пакупнікам прапаноўвалі бульбу, моркву, буракі, цыбулю, яблыкі. Была жывая рыба, мяса, кілбасная прадукцыя. Цэны – ніжэй, чым у крамах.

### ВІЛЕЙКА

– Восеньскія кірмашы праходзяць ад 15 верасня да 3 лістапада па суботах на цэнтральнай плошчы. Іх ладзяць ад 9:00 да 14:00. Можна набыць садавіну, агародніну, саджанцы кветак, дзікарослых раслінаў, мясныя паўфабрыкаты, кандытарскія вырабы ўласнай вытворчасці. Рэгіянальны кірмаш правядуць 6 верасня. Плануецца, што там будзе агародніна ў шырокім асартыменце, саджанцы, мяса, – распавяла **Наталля Драгун**, галоўны спецыяліст аддзела экаломікі Вілейскага райвыканкама.

### ВАЛОЖЫН

– Кірмашы праходзяць кожную нядзелю да 4 лістапада на рынку. Звычайна пакупнікам прапануюць агародніну, садавіну, жывую рыбу, збожжа, саджанцы, – расказала **Ганна Садоўская**, галоўны спецыяліст аддзела эканомікі Валожынскага райвыканкама.

### МЯДЗЕЛ

Восеньскія кірмашы праводзяцца на вуліцы Заазёрнай два разы на месяц, па суботах. Два былі ў верасні, столькі ж плануюць у кастрычніку. Адзін кірмаш зладзяць у лістападзе.

На іх ёсць плодаагародніннная прадукцыя, саджанцы. Пра гэта распавяла **Святлана Русак**, начальнік аддзела эканомікі Мядзельскага райвыканкама.

### СМАРГОНЬ

Сельскагаспадарчыя кірмашы праходзяць на тэрыторыі рынку па завулку Камсамольскім, 4 кожную нядзелю, пачынаючы ад верасня. Наступныя будуць 7, 14 і 21 кастрычніка.

У суботу, 6 кастрычніка, зладзяць вялікі штогадовы кірмаш «Шчодрай восені дары» па Якуба Коласа. Запрошаны калгасы, вытворцы, фізічныя асобы. Пра гэта паведаміла **Валянціна Галяк**, начальнік аддзела гандлю, паслуг і рэкламнай дзейнасці ўпраўлення эканомікі, гандлю і паслуг Смаргонскага райвыканкама.

### АШМЯНЫ

Як расказала **Алена Саўрыновіч**, начальнік аддзела эканомікі Ашмянскага райвыканкама, вялікую выставу-кірмаш правядуць 21 кастрычніка.

На кірмашы прапануюць прадукцыю фермерскіх гаспадарак, дачнікаў, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, рамеснікаў. Будуць прадаваць саджанцы, рыбу.

Кірмаш пройдзе на Першамайскай і плошчы 17 Верасня, на тэрыторыі гарадскога сквера.

### АСТРАВЕЦ

Ад 29 верасня да 11 лістапада на тэрыторыі Астраўца арганізаваныя дзве пляцоўкі, дзе будуць гандляваць сельгаспрадукцыяй, вытворцы, індывідуальныя прадпрымальнікі, юрыдычныя асобы. Першая пляцоўка знаходзіцца на стаянцы насупраць рынку па Ленінскай. Другая – на стаянцы па завулку Кастрычніцкім насупраць бальніцы. Яны працуюць штодзённа ад 9:00 да 21:00. Усе, хто жадае, могуць прадаваць там прадукцыю.

20 кастрычніка ад 8:00 да 14:00 правядуць пашыраны кірмаш. Будзе шырокі асартымент сельгаспрадукцыі. Пра гэта распавяла **Вольга Сілюк**, намеснік начальніка аддзела эканомікі Астравецкага райвыканкама.

**Таццяна КАСЬЯН.**

Маладыя загадзя прадумваюць, колькі і на што патрацiць.

# «Няма італьянскіх ботаў – перажыву»

## Маладзечанка расказала, як гэта – гадаваць траіх дзяцей, аплачваць крэдыт і будаваць дом

МАЛАДЗЕЧНА

**Настасся знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, даглядае траіх дзетак. Дачцэ – амаль тры гады, аднаму сыну – 1,6 года, другому – тры месяцы. Муж працуе на Беларускай чыгунцы. Яго заробак – 900 рублёў, жонка атрымлівае дапамогу на дзяцей – 1081,12.**

Сямейны бюджэт маладыя плануюць разам. Загадзя прадумваюць, колькі і на што патрацiць.

Краму наведваюць штодзень, трацяць прыкладна 25 рублёў. З ежы сям'я набывае самае неабходнае: макарону, курыцу, фарш, малочныя прадукты, кілбасу, хлеб. Малодшаму сыну – сухую сумесь, старэйшым дзецям – садавіну.

Безумоўна, грошы ідуць і на падгузнікі для малых. Атрымалася трохі зэканоміць – сям'я прывезла іх з Польшчы. Ездзяць туды раз у тры месяцы. Падгузнікі набылі за 15 рублёў. Ад колькасці штук у пачку кошт не залежыць. І 42, і 60 штук прапануюць за 15 рублёў. Па два-тры пачкі ў месяц ідзе кожнаму з сыноў. Дачцэ падгузнікі ўжо не патрэбныя.

Адзенне таксама набываюць таннае. Часам з рук ці ў сэкандзе. Няма італьянскіх ботаў, ну і няхай, перажыву, кажа Настасся. Касметыку яна купляе не кожны месяц, калі-нікалі аддае на туш сем рублёў ці на гель-лак для пазногцяў пяць. Манікюр робіць сама. Гэта не тыя расходы, якія неабходныя, лічыць Настасся.

На дызельнае паліва для машыны, якая кожны дзень на хаду, ідзе каля 100 рублёў. У гэтым месяцы на абслугоўванне аўто патрацілі 150. Таксама набылі гуму: адно кола каштуе 95-100 рублёў.

На інтэрнэт сыходзіць каля 17, камунальныя паслугі і мабільная сувязь таксама каштуюць.

### Узялі крэдыт на пакупку дома

Па словах Настассі, грошай не хапае катастрафічна. Сёлета сям'я ўзяла крэдыт і набыла драўляны дом пад Маладзечнам. Крэдыт не льготны, бо на момант яго атрымання было двое дзяцей. Разлічаны ён на 20 гадоў, цяпер плацяць па 300 рублёў. Кожны месяц на тое, каб дабудаваць дом, выдаткоўваюць яшчэ каля 500.

**Будоўля прыватнага дома адымае сродкі, трэба плаціць за матэрыял, дакументы, штампы. Напрыклад, шэсць рублёў каштуе мяшок цэменту. Даставіць 20 тон пяску – 150 рублёў.**

«Камуналку» там пакуль не аплачваюць, але грошы сыходзяць на аплату электрычнасці і вываз смецця. Гэта прыкладна 14 рублёў.

У час будоўлі маладыя жывуць у маці Настассі.

– У бацькоў матэрыяльнай дапамогі не просім, спрабуем усё самі. Але камунальныя плацяжы маці бярэ на сябе, пакуль ідзе будоўля.

Агулам на крэдыт, ежу, харчаванне для малодшага, памперсы, інтэрнэт і мабільную сувязь ідзе прыкладна 1000 рублёў.

### Дапамагае зэканоміць уласны агарод

У кіно і па тэатрах маладыя не ходзяць. Святы адзначаюць, але без фанатызму – у вузкім сямейным коле.

На Каляды і дні нараджэння дзецям абавязкова дораць цацкі. Калі-нікалі і проста купляем, як жа іх не папесціць, дзеліцца Настасся.

«Чыстымі» застаецца прыкладна 200 рублёў. Іх размяркоўвае муж.

Вельмі дапамагае ўласны агарод і сад. Самі вырасцілі бульбу, буракі, моркву, сёлета добры ўраджай яблыкаў, вінаграду... Кансервацыю няма куды ставіць, прызнаецца Настасся. З садавіны і гародніны рабілі павідла, сокі, кампоты, салаты. Ставілі агуркі і памідоры.

Для малодшага сына рабілі пюрэ з гародніны. У краме яно занадта дарагое – больш за рубель каштуе стограмовы слоік.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.09 | 4.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0963 | **2.1334** |
| Еўра | 2.4670 | **2.4690** |
| Злоты, 10 | 5.7538 | **5.7440** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1879 | **3.2600** |
| Грыўня, 100 | 7.4469 | **7.5425** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 26.09 | 3.10 |
| Еўра | 2.4500/2.4900 | **2.4400/2.4750** |
| Долар ЗША | 2.0850/2.1200 | **2.1200/2.1420** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.09 | 3.10 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **13,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,60 | **1,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,35** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **–** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,95 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 1,20 | **1,39** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **1,95** |
| Вінаград, 1 кг | 3,20 | **2,80** |
| Гранат, 1 кг | – | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 0,30 | **1,50** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,80** |
| Ківі, 1 кг | 3,50 | **2,80** |
| Лімоны, 1 кг | 4,20 | **3,30** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **3,00** |

## Маладзечанец хацеў скрасці адзін долар і пяць еўра

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 верасня ў Маладзечанскі РАУС звярнуўся жыхар вёскі Рагазы, які паведаміў, што яго хацелі абакрасці.

Па інфармацыі заяўніка, 29 верасня каля чатырох гадзін раніцы да яго ў дом праз незачыненыя дзверы зайшоў 52-гадовы раней судзімы жыхар Маладзечна. З кашалька ў калідоры фігурант хацеў скрасці грошы – адзін долар і пяць еўра.

Але гаспадар затрымаў яго. Цяпер падазраваны знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Ад 5 да 14 кастрычніка міліцыя праверыць начныя клубы і дыскатэкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каб прыпыніць сярод маладых людзей ужыванне і распаўсюджанне наркотыкаў, ад 5 да 14 кастрычніка міліцыя Маладзечна праверыць начныя клубы і дыскатэкі Маладзечаншчыны, паведамілі «Рэгіянальнай газеце» супрацоўнікі аддзялення наркакантролю і супрацьдзеяння гандлю людзьмі.

Падчас праверкі міліцыянеры пагутараць з уладальнікамі і кіраўнікамі забаўляльных устаноў, правераць наяўнасць і спраўнасць камер відэаназірання.

Разгледзяць, ці магчыма выкарыстаць відэа ў месцах адпачынку, каб знайсці злачынцу.

**Аддзел інфармацыі.**

## На пажары загінула жанчына

**АШМЯНЫ**

Мясцовая жыхарка паведаміла ў МНС пра пажар у доме ў суседзяў. Праз тры хвіліны ратавальнікі ўжо пачалі ліквідацыю ўзгарання – агонь да таго моманту распаўсюдзіўся на калідор і веранду.

У доме жыла 61-гадовая гаспадыня са сваёй 44-гадовай дачкой, яе сужыцелем і пяцігадовай унучкай.

– Дачка і яе грамадзянскі муж прачнуліся ад паху дыму і выйшлі з дома самастойна. Унучка на момант пажару знаходзілася ў гасцях у сяброў. Гаспадыня дома не змагла пакінуць памяшканне: яе цела знайшлі на падлозе ў адным з пакояў, – паведамілі ў абласным упраўленні МНС.

Агонь знішчыў асабістую маёмасць у пакоі і верандзе. Прычыну пажару высвятляюць. Асноўная версія – неасцярожнасць пры курэнні загінулай.

Паводле статыстыкі, за 8 месяцаў з-за неасцярожнага абыходжання з агнём у нашай вобласці адбылося 269 пажараў, на якіх загінуў 31 чалавек. Надбайнае курэнне стала прычынай гібелі 28 жыхароў рэгіёна.

**Паводле OSTROVETS.BY.**



## Мужчына ў Вілейцы атрымаў апёкі, калі распальваў мангал

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта БелТА паведамілі ў Міністэрстве надзвычайных сітуацый.

«Інфармацыя пра мужчыну, які атрымаў апёкі, паступіла ад дзяжурнай медсястры мясцовай бальніцы. Высветлілі, што ў парку на вуліцы Партызанскай ён распальваў мангал. З-за выбуху гаручага рэчыва атрымаў тэрмічныя апёкі 1-3 ступені, гэта 12% цела. Пацярпелы ў бальніцы», – расказалі ў прэс-службе.

МНС нагадвае, што нельга выкарыстоўваць гаручыя і лёгкаўзгаральныя вадкасці для распальвання печак, мангалаў, вогнішчаў.

**Паводле БелТА.**

## Скралі тэлевізар, маразільную камеру, відэапрайгравальнік, швейную машынку

**ВІЛЕЙКА**

Крымінальную справу распачалі па артыкуле «Крадзеж».

Ад канца сакавіка да 23 верасня з кватэры віляйчаніна 1971 года нараджэння скралі тэлевізар, маразільную камеру, відэапрайгравальнік, швейную машынку, газавую пліту, ДВД-прайгравальнік, магнітафон, халадзільнік і тэлевізійны кабель.

Крымінальную справу распачалі 23 верасня па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Матацыкліст з Алёхнавічаў разбіўся на Валожыншчыне

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВАЛОЖЫН**

**30 верасня каля дзесяці гадзін вечара здарылася аварыя каля вёскі Мінці на Валожыншчыне. Загінуў матацыкліст.**




Папярэдняя прычына смяротнай аварыі – перавышэнне хуткасці.

Жыхар Алёхнавічаў, кіруючы матацыклам «Хонда» на дарозе Валожын-Вішнева-Клім, не справіўся з кіраваннем, упаў на дарозе і загінуў. З ім ехала жыхарка Віцебска. Яе забралі ў бальніцу.

Як расказала «Рэгіянальнай газеце» прадстаўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, па папярэдніх дадзеных, 37-гадовы кіроўца няправільна выбраў хуткасць, не ўлічыў умовы надвор'я. У выніку ён выехаў за межы дарогі, упаў, стукнуўся галавой аб бардзюр і загінуў на месцы. 24-гадовая пасажырка, якая ехала з ім, трапіла ў бальніцу з траўмамі.

Валожынскі РАСК праводзіць праверку здарэння.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Смаргоні гарэў легкавы аўтамабіль

**СМАРГОНЬ**

У Смаргоні 27 верасня загарэўся легкавы аўтамабіль. Паведамленне пра гэта паступіла каля 11:30. Пашкоджаны маторны адсек.

Мяркуюць, прычына – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання – кароткае замыканне электраправодкі.

**Паводле сайта МНС.**

## Скраў шэсць кілаграмаў сала, але пачаставацца не паспеў

**СМАРГОНЬ**

Мяркуюць, у той момант зламыснік быў галодны, раз вырашыў скрасці з дому свіное сала. Больш нічога не прапала.

У Смаргоні мясцовы жыхар 1988 года нараджэння скраў шэсць кілаграмаў сала. Каля паловы 10-й раніцы грамадзянін знаходзіўся ў адным з дамоў па Гагарына ў райцэнтры. Зайшоў унутр, гаспадароў у гэты час у памяшканні не было. Мяркуюць, у той момант зламыснік быў галодны, раз вырашыў скрасці з дому свіное сала. Больш нічога не прапала.

Аднак пакаштаваць сала падазраваны не паспеў. Яго аператыўна затрымалі, выкрадзенае канфіскавалі.

Крымінальную справу ўзбудзілі па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Махляры бацька і сын завалодалі пяццю кватэрамі

**АШМЯНЫ**

Пракуратура Гродзенскай вобласці вывучыла і накіравала ў суд крымінальную справу аб махлярстве ў асабліва буйным памеры.

У здзяйсненні злачынства абвінавачваюць 51-гадовага жыхара Ашмянаў і яго 29-гадовага сына, паведаміла старшы памочнік пракурора Гродзенскай вобласці **Таццяна Вербель.**

У 2014-2016 гадах мужчыны ашуканскім шляхам завалодалі пяццю кватэрамі і грашыма жыхароў Мінска і Ашмянаў.

«Абвінавачаныя знаёміліся з грамадзянамі, схільнымі да ўжывання алкаголю, якія маюць запазычанасць па камунальных плацяжах, пасля чаго ўваходзілі да іх у давер і прапаноўвалі свае паслугі па продажы кватэр. У далейшым яны заключалі дагаворы куплі-продажу, а грошы за кватэры ўласнікам жылля не перадавалі», – распавяла Таццяна Вербель.

Перад заключэннем здзелак пацярпелым давалі невялікую суму грошай альбо разлічваліся прадуктамі і спіртным. Цалкам розлічыцца абяцалі пазней, аднак пасля продажу кватэр грошы іх былыя ўласнікі не атрымлівалі.

Шкода ад дзейнасці зламыснікаў перавысіла 154 тысячы рублёў.

**Паводле БелТА.**

## Бабуля павалілася ў аўтобусе і траўмавалася: ДАІ шукае відавочцаў здарэння

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 21 верасня раніцай, каля адзінаццаці гадзін у аўтобусе №19.

79-гадовая маладзечанка зайшла ў аўтобус на прыпынку «Плошча Старое Места».

Жанчына заплаціла за праезд. Аўтобус пачаў рухацца. І ў гэты момант яна павалілася ў праходзе паміж сядзеннямі з боку кабіны ў накірунку салона.

У выніку пенсіянерка атрымала траўмы, распавёў «Рэгіянальнай газеце» інспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС **Сяргей Бартош**.

ДАІ просіць сведкаў і відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вул. Т. Дудко, 1-18 або па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Парэзаў 42-гадовую сужыцельніцу і атрымаў чатыры гады

**ВАЛОЖЫН**

Здарэнне адбылося сёлета ў ліпені на Валожыншчыне. Будучы нецвярозым, 35-гадовы мужчына парэзаў сваю сужыцельніцу.

Стала вядома, што за злачынства мужчына атрымаў чатыры гады пазбаўлення волі. Таксама ён будзе прымусова лячыцца ад алкагалізму.

З жанчынай фігурант жыў ад 2016 года. Падчас той сваркі параніў яе ў грудзі і перадплечча, аднак не пашкодзіў унутраныя органы.

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

# Памятаю элегантны выгляд, харызму і падораную ёй чырвоную рукавічку

## Выпускнікі ільянскай школы розных часоў – пра настаўніцу Розу Шэрую

ВІЛЕЙКА

**У Ільянскай сярэдняй школе Роза Шэрая працавала ад пачатку 1970-х гадоў і да нядаўняга часу.**

Выкладала беларускую і рускую мову і літаратуру, выяўленчае мастацтва. Была педагогам-арганізатарам, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце. Кіравала школьным музеем «Вілейшчына літаратурная», які не без яе ўдзелу стаў народным.

За сваю дзейнасць настаўніца мае шмат узнагарод. А яе вучні паспяхова выступалі і перамагалі на рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове.

**Пра настаўніцу і чалавека Розу Шэрую можна напісаць шмат. Але перад прафесійным святам мы вырашылі даць слова былым вучням ільянскай школы.**



Фота Васіля ШЭРАГА.

Роза Шэрая ў музеі «Вілейшчына літаратурная» з юнымі экскурсаводамі.

**Дызайнер Вераніка Газава, Санкт-Пецярбург:**

– Ёсць людзі, сустрэўшы якіх, хочацца слухаць іх кожнае слова,назіраць за кожным рухам. Гэта ўласціва толькі глыбокаму чалавеку. Роза Канстанцінаўна якраз такая. Інтэлігентная жанчына з неверагоднай харызмай. Яе манеры, гаворка, элегантны выгляд – стыль, адным словам.

Памятаю нашы заняткі ў пастаянна халодным музеі, цёплыя сустрэчы з пісьменнікамі. І тую чырвоную рукавічку, якую яна падарыла мне як сімвал добрага сэрца.

**Выкладчыца музыкі Антаніна Галубовіч (Крывела), Чысць:**

– У нашым класе Роза Канстанцінаўна два гады вяла беларускую мову і літаратуру, а таксама выяўленчае мастацтва. Гэта чалавек сапраўды ўлюбёны ў сваю прафесію, вельмі таленавіты. Пра такіх людзей кажуць: педагог ад Бога.

Прыгадваю, як Роза Канстанцінаўна кіравала музеем «Вілейшчына літаратурная». Мы – юныя экскурсаводы, падрыхтаваныя ёй, – неаднаразова самі праводзілі ў музеі экскурсіі перад сваімі аднакласнікамі, вучнямі пачатковай школы і высокімі гасцямі.

Для школьнага музея гэта настаўніца зрабіла шмат. Колькі сябе памятаю, паралельна з настаўніцкай дзейнасцю яна ўвесь час займалася музеем. Нездарма ён атрымаў званне «народны».

Пра Розу Канстанцінаўну можна гаварыць шмат. Асабіста я памятаю яе як добрую, спагадлівую, заўсёды з усмешкай. Вельмі ўсцешаная, што ў маім жыцці быў гэты цудоўны педагог.

**Студэнтка Анастасія Хаванская, Ілья:**

– У мяне заўсёды было адчуванне, што Роза Канстанцінаўна ведае асабіста ўсіх сучасных беларускіх пісьменнікаў. Памятаю, як падчас вучобы мы бегалі да яе ў музей з просьбай дапамагчы ў напісанні сачыненняў або праверыць арфаграфічныя памылкі ў пісьмовых працах па рускай мове ці беларускай. Яна дружалюбная і неверагодна таленавітая настаўніца.

**Прадпрымальнік Раман Альшук, Мінск:**

– У мяне Роза Канстанцінаўна пакінула ўражанне вельмі захопленага сваёй справай настаўніка. Яна валодае ўнікальным дарам – запаліць цікавасць вучняў да свайго прадмета. Умее супакоіць увесь клас, не прымяняючы агрэсіўных мер уздзеяння. Яна сама натхнёная і натхняе вучняў.

Я не заўсёды ў школьныя гады цікавіўся рознымі нацыянальнымі каштоўнасцямі, літаратурай, краязнаўствам. Але калі Роза Канстанцінаўна была побач, пачынала цікава распавядаць нешта, то падсвядома нараджалася цікавасць і жаданне даведацца больш.

Ведаю, што яна піша вершы. Неаднаразова чытала іх нам. Роза Канстанцінаўна – цудоўны настаўнік, які запомніўся сваёй душэўнасцю, лаяльнасцю і вернасцю справе.

**Педагог Таццяна Буслаўская (Камінская), Ілья:**

– Роза Канстанцінаўна – гэта той чалавек, з якім звязаны самыя яркія асацыяцыі майго школьнага дзяцінства. Выкладала ў нас выяўленчае мастацтва, сусветную мастацкую культуру. Працавалі разам у дзевяностыя гады над стварэннем музея «Вілейшчына літаратурная».

Ветлівая, тактоўная, справядлівая, аптымістычная – эпітэты можна падбіраць бясконца. І слоў гэтых не хопіць, каб выказаць падзяку шаноўнай Розе Канстанцінаўне за яе мудрыя ўрокі жыцця, якімі яна шчодра дзялілася з намі, вучнямі.

**Генрых Кутас, намеснік дырэктара магазіна, Чысць:**

– Роза Канстанцінаўна выкладала ў мяне беларускую мову і літаратуру два гады, калі я з абадоўскай васьмігодкі перайшоў у ільянскую дзесяцігодку. Якой яна была настаўніцай? Дэмакратычнай, апантанай да таго, чым займалася. Увесь час была ў нейкіх справах: мова, літаратура, музей, краязнаўства.

На ўроках у яе было лёгка. Вучні хадзілі з жаданнем. Можна сказаць пра дамашнюю, спакойную абстаноўку на яе ўроках.

Дысцыпліна таксама заўсёды была. Але Роза Канстанцінаўна – не з тых настаўнікаў, што парадку і цішыні ў класе дамагаліся крыкам. На ўроках не абыходзілася без яе пачуцця гумару, што, дарэчы, уласціва ўсёй сям'і Шэрых.

У 1988 годзе я, дзевяцікласнік ільянскай школы, падрыхтаваны ў асноўным Розай Канстанцінаўнай, заняў другое месца на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове.

Гэта настаўніца, якая сама была ўвесь час з агеньчыкам у вачах і магла запаліць сваіх вучняў.

**Доктар-педыятр Дзмітры Мікуцкі, Гродна:**

– Думаю, што гэта самы добры настаўнік, якога я сустракаў. Яна ў мяне з анёлам беларускай літаратуры асацыюецца. Заўсёды было прыемна ў суботу зайсці да Розы Канстанцінаўны ў музей. Хаця, здавалася б, субота і музей – паняцці несупастаўляльныя. Але там заўсёды стаяў такі прыемны своеасаблівы пах.

Самы вялікі плюс Розы Канстанцінаўны – яна ніколі не прымушала нешта рабіць. Яна заўсёды давала выбраць. Нават самы слабенькі вучань мог расказаць вялікі верш перад якой-небудзь дэлегацыяй. Яна заўсёды вельмі старалася не падзяляць дзяцей.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

• УАЗ-469, нядорага. Т. (8-029) 9156731, (8-029) 2195845.*

• ФВ L-28, 1991 г.в. Т. (8-029) 7005236.

• ФВ В-6, 2007 г.в., 1,9, прабег 235 тысяч км, у РБ – 7 гадоў, адны рукі. Т. (8-029) 3437851.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

**КУПЛЮ**

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

**ІНШАЕ**

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна з рамонтам, 5/5, 30/19,6. Т. (8-029) 6661038*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо абмяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Віленскай, 31. Т. (8-033) 6677230.*

• 3-павярховы дом жылы ў цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом у в. Баранцы Вілейскага раёна па вул. Лясной, д. 1. Участак 0,20 га, гаспадарчыя пабудовы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7556719.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-044) 4757327.*

**ІНШАЕ**

• ААТ «ПМК-32» (г. Маладзечна) рэалізуе нявыкарыстаныя аб’екты вытворчага прызначэння: будынак гаража (801,5 кв.м), адміністрацыйна-гаспадарчы будынак (кантора, 348,4 кв. м, на былой базе Маладзечанскага ПМС па вул. Школьнай, д.30 у в. Насілава). Магчымы продаж аб’екта ў поўным аб’ёме на зямельным участку плошчай 1,92 га. УНП 600077220. Кантактныя тэлефоны: (8-029) 3196638, (8-029) 7636645.*



## ПАСЛУГІ

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

**БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА**

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэякапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-пагрузчык: планіроўка, зняцце грунту, прыборка смецця, снегу і г. д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

• Адлівы, парапеты, парасоны (зонтыкі) для комінаў і іншыя вырабы з бляхі (жесці). Выбар колеру. Дастаўка. КА 6608431 Гіро А.А. Т. (8-029) 6051169, (8-029) 8495238.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• **АЦЯПЛЕННЕ. ВОДАПРАВОД. КАНАЛІЗАЦЫЯ**. Усе віды сантэхнічных работ. КА 8079764 Ганчар І.І. Т. (8-029) 7789954.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катароў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Бытавая тэхніка**

• Кухонны камбайн, швейная машынка, шафы навясныя, усё б/у. Т. (8-0176) 543172.*

• Халадзільнік Атлант б/у. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцэраль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Набор мяккай мэблі (вуглавая канапа, маленькая канапа) б/у у добрым стане. Т. (8-029) 7676719.

**Музінструмент**

• Акардэон нямецкі Хорх, Вілейка. Т.(8-029) 7005236.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова. Ацёл у лістападзе. Вілейскі раён. Т. (8-029) 2528652, (8-01771) 41264.*

• Парасяты в’етнамскія ад 40 руб., бульба. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

**Іншае**

• Абсталяванне гандлёвае б/у і халадзільнае, сценка з агрэгатам пад вынасны холад і іншае. ІП Заянчкоўскі А. С. УНП 600370490 Т. (8-029) 6278076.*

• Бульба буйная і насенная. Цана дагаворная. Т. (8-044)7554483.

• Лодка з помпай электра. Т. (8-029) 7005236.

## У Вілейцы ганаровы статус «Дзіця міру» прысвоілі хлопчыку Рому

ВІЛЕЙКА

21 верасня грамадскасць адзначыла Міжнародны дзень міру, заснаваны Генасамблеяй ААН у 2001 годзе. Усім дзеткам, якія нарадзіліся ў гэты дзень, прысвойваюць ганаровы статус «Дзіця міру».

«Падобная акцыя з'яўляецца сацыяльна значнай, міратворчай, выхаваўчай і дабрачыннай. Яна прапагандуе сямейныя каштоўнасці, мір і згоду, мае на мэце выхаванне «чалавека міру», – падкрэсліваюць у Беларускім фондзе міру.

Традыцыйна старшыня Вілейскай раённай арганізацыі ГА «Беларускі фонд міру» **Святлана Валынец** і намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама **Жанна Петух** наведалі радзільнае аддзяленне. Яны павіншавалі жыхарку Вілейкі **Анастасію** з нараджэннем першынца сына Рамана.

Паводле сайта Вілейскага райвыканкама.

## Ляснік з Вілейкі вярнуўся з перамогай з міжнародных спаборніцтваў у Баварыі

ВІЛЕЙКА

Як расказала «Рэгіянальнай газеце» прэс-сакратар Міністэрства лясной гаспадаркі **Анастасія Дакучаева**, днямі нацыянальная каманда вальшчыкаў лесу вярнулася з Германіі. Тут, у Баварыі, ладзілі міжнародныя спаборніцтвы лесарубаў. Прадстаўнік Вілейшчыны **Валеры Дуровіч** зноў вярнуўся на радзіму з перамогай.

У асабовым заліку віляйчаніну да другога месца не хапіла трох балаў. Але ён стаў лепшым у практыкаванні «Дакладнае пілаванне».

Акрамя гаспадароў і беларусаў, у спаборніцтвах удзельнічалі лесарубы з Польшчы, Аўстрыі і Чэхіі.

Чэмпіянат ладзілі ў нямецкім Голдбаху па традыцыйных унутраных правілах. Яны крыху адрозніваліся ад агульнапрынятых міжнародных. Беларускія спартсмены не былі гатовыя да гэтага, таму ў некаторых практыкаваннях згубілі жаданыя балы.

– Нягледзячы на неспадзяванкі, нашы лесарубы выступілі добра. Каманда стала абсалютным чэмпіёнам у намінацыі «Госць», – адзначыла Анастасія Дакучаева. – Гэта заўважылі і гледачы, і арганізатары.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Кантэйнеры для збору пластыкавых накрывак з'явіліся ў Вілейцы і Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

Як распавяла «Рэгіянальнай газеце» маркетолаг праекта «Новае жыццё ў абмен на накрыўкі» **Вераніка Коўтун**, кантэйнеры для збору накрывак ад пластыкавых бутэлек ужо ёсць у Вілейцы і Маладзечне.

У Маладзечне такія пункты два. Першы – у цэнтры развіцця «MamaRada» на Касманаўтаў, 10 (у будынку інтэрната). Другі – у адукацыйным цэнтры «Адкрытая прастора» на Валынца, 12-б, 1-1.

У Вілейцы кантэйнер ёсць у Вілейскім раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі па адрасе: Савецкая, 54.

Нагадаем, што ў рамках праекта неабыякавыя людзі збіраюць пластыкавыя накрыўкі і накіроўваюць іх на перапрацоўку. А за атрыманыя грошы набываюць лекі і медыцынскае абсталяванне для хворых дзяцей.

Праект рэалізуюць у 42 краінах свету. Далучайцеся.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Маладзечанцы запрашаюць на спеўны сход

МАЛАДЗЕЧНА

У 18:30 у пятніцу, 12 кастрычніка, адбудзецца сустрэча для тых, хто любіць спяваць.

«Спяваць можа кожны!» – так лічыць стваральнік і кіраўнік праекта «Спеўны сход» **Сяржук Доўгушаў**. Не толькі лічыць, але і актыўна ўвасабляе ў жыццё праз штомесячныя сустрэчы, на якіх людзі спяваюць разам беларускія песні.

Мэта праекта – спеўнае яднанне людзей і знаёмства з беларускай песняй.

Аддзел інфармацыі.

# У чым тайна ракі Віліі, моц замоў і мінская магія

## Што вы адкрыеце ў кнізе «Пра паганства і балтаў»

**Сродкі на выданне збіралі праз краўдфантынгавую платформу. Павілле – адзін з рэгіёнаў, якога непасрэдна тычыцца тое, пра што расказвае кніга.**




Інія Трынкунене – лідар літоўскага неапаганскага руху «Рамувы» – з кнігай «Пра паганства і балтаў».

Рэдактарам выступіў **Алесь Мікус**. Тыраж выдання – 200 асобнікаў – пабачыў свет у жніўні. Кніга падзеленая на тры часткі, і ў кожнай сабрана некалькі асобных артыкулаў. «Жыццё ў тутэйшай веры» – гэта частка не столькі пра рэлігію, колькі пра традыцыі. У што верылі нашы продкі і чаму. Аўтары для разумення прымяняюць вызначэнне «паганства», але падкрэсліваюць, што гэта тутэйшая, «прыродная гэтаму краю вера».

**З часткі «Спадчына тутэйшых балтаў» чытач даведаецца пра тое, якой была Беларусь 10 тысяч гадоў таму, містэрыю агню ў Дзень адзінства балтаў, гісторыю ВКЛ у сямі пунктах і таямнічае арыйскае «S».**

Раздзел «Прабацькоўская вера вакол нас» – гэта агляд традыцый і поглядаў у Літве, Латвіі, Польшчы, Украіне, Расіі. У гэтай жа групе вылучаюць сувязь з марыйцамі і ісландцамі.

### Вялля – гэта беларускі Стыкс

Асаблівае месца ў традыцыйнай беларускай культуры займае культ продкаў. Гэтай тэме прысвечаны артыкул «Час Дзядоў, час Вялляны». Аўтар тлумачыць, што для беларусаў час памяці продкаў пачынаецца ад восеньскага раўнадзенства і заканчваецца ў лістападзе. У латышоў гэта падкрэслена нават у назве месяца кастрычніка. «Велю мэнэс» – значыць, «месяц дзядоў».

Менавіта багіню Вялёну запрашалі разам з дзядамі да стала. Яе імя падобнае да таго, што і балцкае «душа нябожчыка». Па-літоўску гэта vele, па-латышску velis. І рака Вялля мае тое ж паходжанне – ад веляў, ці душаў продкаў. Рака цячэ на захад, у бок, куды заходзіць сонца. І па вераваннях нашых прашчураў, менавіта яна заносіць душы ў той свет.

У 2007 годзе пад Вілейкай паставілі скульптуру Вялляны, але яе не звязваюць са старажытным культам продкаў. Бліжэй да гэтай ідэі скульптура багініапякункі памерлых у літоўскім мястэчку Вялёна.

У многіх беларусаў кожны год паўстае пытанне, як жа правільна адсвяткаваць Дзяды. Аўтар адказвае – самае важнае, запрасіць да стала душы, ці велі і саму Вяллёну. Сабрацца сям'ёй за сталом і правесці гэты час разам.

### Аўтакальцо вакол Мінска – гэта магія

Артыкул «Дзевяць пунктаў пра менскую магію» расказвае пра асаблівасці сталіцы Беларусі з пункту гледжання містыкі. Адзін з яго тэзісаў – не проста так зробленая кальцавая вакол горада, прычым іх нават два. На думку аўтара, калі нешта адасабляеш, то бярэш над гэтым уладу. Раз выдзеліў круг, то можаш «узяць і забраць сабе ў кішэню».

Яшчэ адна магічная непаладка Мінска ў тым, што ў сваёй Свіслачы большая частка вады – з той самай Вяллі. Яна цячэ на захад, таму лічыцца цёмнай. А ў свіслацкай вады з Вяллёй сувязяў няма, таму ім не варта быць злучанымі.

### Як правільна замовіць

Замовы – адзін са спосабаў, якімі карысталіся нашы прашчуры, каб падладзіць прыроду, Сусвет пад свае патрэбы. На думку аўтара артыкула «У чым моц замоў?», гэты від магіі мае ўстойлівую формулу. І не столькі важна ведаць канкрэтныя словы замовы ад, напрыклад, заікання, колькі разумець сам прынцып замовы.

Гэту формулу ў кнізе тлумачаць. Самае галоўнае для замовы – моц выканаўцы, таго, хто замаўляе. Гэта прыродная моц аўтара стварае матэрыю і рухальную сілу замовы. І такой моцы больш у тых, хто жыве ў вёсцы і бліжэй да прыроды.

Другім складнікам з'яўляецца ўменне скласці аналогіі. У любой замове неабходна параўнаць жаданы вынік з нечым падобным. Напрыклад, калі ў чалавека праблемы з суставамі, то ў замове можна параўнаць суставы з канём: «калінаў мост правалíўся – сівы конь праваліўся. Сівы конь на месца ўстаў – сустаў на месца ўстаў».

Апошняе – гэта форма, у якую складваецца замова. Тэкст павінны мець асаблівую рытміку, якая і робіць з тэкста замову.

Кніга будзе цікавая тым, хто цікавіцца «прыроднай» верай, беларуска-балцкімі сувязямі і з навуковага пункту гледжання, і для асабістага прымянення.

Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.

# Ён шукаў яе 50 гадоў

**Усе падзеі, што адбываюцца ў нашым жыцці, узаемазвязаныя самым дзіўным чынам. У гэты свет мы прыходзім з пэўным запасам ведаў, з вызначанай картай жыцця. Яна можа мяняцца толькі ў залежнасці ад таго, як мы будзем сябе паводзіць.**

Уявіце такую гісторыю. 10-гадоваму хлопчыку Джону з Канады сняцца дзіўныя сны, ён усё занатоўвае ў дзённіку. Сны пра дзяўчынку, якая нарадзілася ў Савецкім Саюзе. Ён ведае дату, калі яна нарадзілася, яе імя – Таня і тое, што яна будзе яго жонкай.

Доўгія гады ён думае пра гэту дзяўчынку, часта бачыць яе ў сне і рысуе карціны таго, як яна выглядае. Хлопчык расказвае пра гэта сябрам і паказвае ім свае рысункі. Яны смяюцца і думаюць, што ён вар'ят.

У той час у Савецкім Саюзе нарадзілася дзяўчынка Таня...

## Гісторыя знаёмства маладзечанкі і канадца

Нядаўна маладзечанка Таццяна расказала гісторыю знаёмства са сваім мужам, у якую нават цяжка паверыць. Яна, маючы няўдалы першы шлюб, жыла доўгі час з сынам і бацькамі. Неяк вырашыла зайсці на сайт знаёмстваў і пакінула там свае дадзеныя. Праз нейкі час адгукнуўся мужчына з Канады, Джон. З ім завязалася перапіска, якая з цягам часу перарасла ў шлюб, які зарэгістравалі летась 21 чэрвеня.

– Калі першы раз убачыла яго, – пры сустрэчы расказвае Таццяна, – то ў мяне нешта ёкнула ў сэрцы, і я зразумела, што гэта той чалавек, якога доўга чакала. Мне здалося, што мы былі знаёмыя заўсёды. Гэткае ж адчуванне было і ў Джона. Таму ён вырашыў неадкладна ехаць у Беларусь.

Джона дома сябры палічылі не зусім пры розуме, калі выпраўляецца за трыдзевяць зямель за нейкай там жанчынай.

– Калі паведаміў сваім сябрам, што еду ў Беларусь, – тыя здзіўлена паглядзелі на мяне і сказалі, што я з глузду з'ехаў. Яны думалі, што больш не ўбачаць мяне, казалі, што апынуся адразу ў канаве, якія там уздоўж дарогі, як толькі выйду з самалёта, – з усмешкай расказвае Джон. – Але адразу па прыездзе толькі штраф атрымаў за перавышэнне хуткасці. І яшчэ б адзін атрымаў, але спыніў міліцыянер з веданнем англійскай. І мы паразумеліся.

Дзіўна, але яго сябры з Канады да гэтага часу думаюць, што і цяпер існуе Савецкі Саюз, што Беларусь – частка Расіі.

## Таня і Таццяна – адно і тое ж імя

Джон прыляцеў у Маладзечна спецыяльна для таго, каб узяць шлюб. Ён прабыў тут пяць месяцаў.

– У гэты мой прыезд, ужо пасля таго, як узялі шлюб, у нейкі момант я даведаўся, што Таццяна і Таня – гэта адно і тое ж імя. Хаця ў Канадзе – гэта розныя, працягвае свой расповед Джон. – Я ж пазнаёміўся з Таццянай, у яе пашпарце яна таксама запісаная як Таццяна, а дома чую, як яе клічуць Таня. І тут мне ўспомніліся сны, якія сніліся ў дзяцінстве. Я не мог не запісаць іх тады, бо ўсё так рэальна паўставала і не адпускала на працягу некалькіх гадоў. Адразу пасля вяртання ў Канаду я прадаваў бацькоўскі дом, знайшоў тыя запісы і хуценька выслаў Таццяне.

## Падарунак на Каляды

Гэта табе падарунак на Каляды, – напісаў Джон.

Таня, атрымаўшы такое пасланне, была проста ў шоку.

– Я, убачыўшы гэтыя выцвілыя ад часу лісткі, была настолькі ўражаная і здзіўленая, што не магла доўга прыйсці да сябе, – расказвае Таццяна. – Самы першы датаваны 12 снежня 1965 года, калі Джону было 10 гадоў. Ён піша, што яму прысніўся сон, што ў гэты дзень у Савецкім Саюзе нарадзілася дзяўчынка па імені Таня, якая стане яго жонкай. Менавіта ў гэты дзень, 12 снежня 1965 года, нарадзілася я.

Пазней, у лістападзе 1969 года, з'яўляецца такі запіс у яго дзённіку: «У мяне было шмат сноў пра Таню. Цяпер ёй павінна быць чатыры гадкі».

Калі тады Джон расказаў пра свае сны сябру, той сказаў, што ён ненармальны.

У 19 гадоў ён зноў рысуе мару жыцця – дзяўчынку Таню з коскамі з Савецкага Саюза. Побач з рысункам подпіс: «Мая салодкая дзяўчынка Таня з Савецкага Саюза, год – 74, Джон». Калі Таццяна паказала сваю дзіцячую фатаграфію, то яго рысунак і яе фота настолькі супалі, што гэта проста цуд.

– Я проста дзіву даюся. У мяне якраз на той час былі такія коскі, была любімая блузка з каўнерыкам і жабо, і мяне завуць Таня, – працягвае расповед Таццяна.

Адзін запіс выклікае вялікае засмучэнне ў 17-гадовага юнака. Ён піша, што дзяўчынка Таня з Савецкага Саюза будзе яго жонкай, але як жа ён знойдзе яе?

## Таццяна пераязджае ў Канаду

Напрыканцы нашай размовы Джон сказаў:

– Шмат гадоў прайшло з таго часу, перш чым мы сустрэлі адзін аднаго. І якое шчасце, што мы цяпер разам. Я спецыяльна сваімі рукамі пабудаваў дыхтоўны дом, у якім мы будзем жыць у Канадзе.

Шкада, што цудоўная жанчына, выдатны музычны педагог з'язджае. Але, пэўна, лёс мае свае планы наконт яе.

Няхай гэтай закаханай пары шчасціць у жыцці.

Якую выснову тут можна зрабіць: мы яшчэ шмат чаго не ведаем пра гэты свет. А яшчэ: загадвайце жаданні. І калі тваё жаданне моцнае, то ўвесь Сусвет прыйдзе табе на дапамогу, каб яно спраўдзілася, бо ў нашым свеце няма нічога немагчымага.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**
**Фота і рысункі забяспечаныя Таццянай ВІЛСАН.**



Джон і Таццяна сёння.




«Мая салодкая дзяўчынка Таня з Савецкага Саюза, год – 74, Джон». Ёй тут 9 гадоў.



Таццяна ў дзяцінстве.



«Таня, 15 гадоў. Джон, 1980 год».



У 1980 годзе Тані якраз было 15 гадоў, а Джону 25. Параўнайце рысунак і фотаздымак.

# У 20 гадоў – 20 краін і 20 тысяч кіламетраў

## Маладзечанка падзялілася досведам жаночага аўтаспыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Вольга Гірс жыве ў Выверах. Вучыцца на дзённым аддзяленні ў Мінску на ландшафтнага дызайнера. У ВНУ ездзіць аўтаспынам, гэта займае прыкладна гадзіну. На цягніку з населенага пункта дабірацца на сорак хвілін даўжэй.**

Ідэя падарожнічаць спынам з'явілася ў дзяўчыны два з паловай гады таму. У той час у Мінску зладзілі сустрэчу з вандроўнікам **Віктарам Аспідавым**, які праехаў такім чынам 84 краіны. На яе прыйшла і Вольга. Падчас сустрэчы падарожнік прапанаваў гасцям паехаць з ім спынам у Гомель.

– Вырашыла, чаму б не. З таго часу пайшло-паехала, – прыгадвае дзяўчына.

### Этамп нагадаў фільм «Амелі»

Спачатку Вольга ездзіла па Беларусі, потым – па Еўропе. Летась была ў Германіі, Галандыі, Бельгіі, Францыі, Іспаніі і Партугаліі. Сёлета наведала Грузію. У 20 гадоў Вольга праехала прыкладна 20 тысяч кіламетраў і наведала 20 краін.

Па словах Вольгі, больш за ўсё спадабалася ў Нідэрландах. Мясцовыя – адкрытыя людзі, без стэрэатыпаў і заганаў, часта падбіраюць на дарозе.

– У Гаазе нават пажыла б. Там вельмі атмасферна: брусчатка, утульныя вуліцы, класныя людзі, ёсць выхад да мора. Увогуле, мора не люблю, але здорава сядзець увечары на пірсе, глядзець на ваду, – успамінае Вольга.

Спадабаўся і Этамп, што пад Парыжам. Там нібы апынаешся ў французскім фільме «Амелі».

А вось Парыжам дзяўчына не захапляецца: брудна, шматлюдна, дакучлівыя прадаўцы.

### Каб чытаць Булгакава, вывучыў рускую мову

У Берліне ў метро пазнаёмілася з музыкантам, які запрасіў на вечарынку. У вялізным катэджы сабралася каля 40 чалавек з Германіі, Нідэрландаў, Польшчы, Францыі… Там пазнаёміліся з галандцам-паліглотам.

– Кажа, я тут размаўляю на галандскай, англійскай, нямецкай і ў канцы дадае на чыста рускай «ну, і па-руску трохі магу». Любіў Булгакава, падумаў, чаму б не пачытаць у арыгінале. Цяпер чытае, – смяецца Вольга. – Наконт рускай. Зламілі машыну ў Іспаніі. Спрабуем патлумачыць на англійскай, куды нам. А з мовай у Іспаніі дрэнна. І кіроўца нечакана пытаецца: «А на рускай вы не можаце?»

Пра Беларусь у краінах далей Нідэрландаў некаторыя не чулі зусім. Калі Вольга казала, адкуль яна, лічылі, што з Бельгіі.

### У паездках захапляюць людзі

У кожнага чалавека – сваё выхаванне, традыцыі, аднолькавых няма.

– Часта кажуць, што ты была ў Барселоне і не паглядзела тое і тое. Для мяне гэта не галоўнае. Здаецца, «я быў у Луўры, стаяў на Эйфелевай вежы» – робяць для птушачкі».

Знаёміцца дапамагаў і каўчсёрфінг.

> Каўчсёрфінг – адна з найбуйнейшых гасцявых сетак, выглядае як анлайн-сэрвіс. Карыстальнікі прапануюць бясплатны начлег падчас падарожжаў і арганізуюць сумесныя вандроўкі.

Палаткай карысталася не часта. У Іспаніі і Партугаліі з каўчам былі накладкі. У першай краіне праблемы і са спынам. Па чатыры-пяць гадзін даводзілася стаяць на дарозе.

– Самае цікавае, усе ўсміхаюцца, махаюць і праязджаюць міма. Быў дзіўны выпадак. Стопілі ля запраўкі, падышла жанчына з сабачкам, сказала, што спын – цікавы спосаб падарожжа, пагутарылі з ёй. Але калі даведалася, што едзем у адзін горад, пажадала поспехаў і сышла.

### Колькі каштуе Еўропа

У Еўропе за месяц Вольга патраціла каля 200 еўра. Пераважна на ежу, якую набывала ў крамах.

Грузія за два тыдні абышлася ў 200 долараў, але дзяўчына ні ў чым сабе не адмаўляла. Па яе словах, калі на рынку пыталася, колькі каштуе садавіна, часта адказвалі: «Для вас бясплатна».

– Цяжкавата, мяняеш некалькі машын, кожны спрабуе пачаставаць. Кажам, што паелі, а яны: «Вы здолееце, вы моцныя, паехалі ў рэстаран».



Вольга Гірс на вуліцы ў Берліне.

### Дзяўчыне прасцей ездзіць спынам

Часцей падбіраюць мужчыны. Вольга думае, гэта звязанае з тым, што сярод іх больш кіроўцаў. Сродкаў аховы яна не бярэ. Толькі аднойчы ў спадарожніцы быў балончык. Лічыць, што чалавек падобны да магніта: пра што думае, тое і прыцягвае.

– Дзяўчыне прасцей ездзіць спынам. Уявіце, еду, стаіць нейкі мужчына. Тысячу разоў падумаю перад тым, як падабраць. А жанчыну заўсёды пасаджу ў машыну.

### «Працуеш? Не, вучуся»

Заляцанняў вандроўніца не заўважыла. Кажа, адразу бачна, калі едзеш з заплечнікам на 60 літраў, што ты «не такая». А падчас дарогі да вучобы людзі ў першыя хвіліны размовы ўсё правільна разумеюць. Іншае бывае рэдка.

Неяк спыніўся легкавік. У той час Вольга ехала ў БДУ – раней вучылася на іншай спецыяльнасці. У дзяўчыны спыталіся, ці працуе. Яна не зразумела, адказала: «Не, вучуся. На хіміка-ядзершчыка». Кіроўца і з'ехаў.

Зімой стопіць прасцей. Холадна, кіроўцы шкадуюць. У дождж таксама.



Горад Этрэта ў Францыі.

### Бацькі ўжо прывыклі

Бацькі ведаюць, што дачка ездзіць спынам. Пасля паездкі ў Гомель Вольга ім патэлефанавала і расказала пра досвед.

– Яны такія: «Ну, ты ж больш так не будзеш». Кажу: «Напэўна… Напэўна буду».

Наступная паездка была ў Піцер. Вольга збіралася ехаць з аднагрупніцай, але бацькоў гэта не супакойвала, здавалася дзіўным. Цяпер ім больш-менш спакойна.

– Неяк брат люляе на руках дачку і кажа: «Спі, вырасцеш, будзеш з хроснай мамай спынам ездзіць». Выходзіць яму жонка з качалкай і словамі: «Толькі праз мой труп». Думаю, так бы і я ставілася да сваёй дачкі. Зразумею, як перажываюць бацькі, толькі калі ў самой будуць дзеці.

### Хоча ў Паўднёвую Карэю і Японію

У наступным годзе Вольга збіраецца ў Арменію і Азербайджан. Марыць пабываць у Паўднёвай Карэі і Японіі. Там абсалютна іншыя культура, менталітэт.

Быў час, чытала японскую літаратуру, дзеліцца Вольга. Апісваюць пейзаж, а ў галаве ўжо карцінка. Хочаш з'ездзіць, паглядзець. Яна марыць пабачыць квітнеючую сакуру. Але на Японію і Карэю трэба больш часу. А падчас вучобы застаецца толькі месяц канікулаў.

Дзяўчына мяркуе: пакуль маладая, ёсць свабодны час, жаданне, чаму не. Магчыма, потым атрымаецца сумяшчаць падарожжы з працай. Бо праект па дызайне можна рабіць у любым пункце свету.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фотаздымкі забяспечаныя Вольгай ГІРС.**

# Станачкавы, Старулёвы, Мамэртавы...

## З гісторыі крэўскіх мянушак

*Працяг. Пачатак у №39*

СМАРГОНЬ

**Калі ў імя дзіцяці бацькі ўкладаюць тое, што яны хацелі б у ім бачыць, то ў мянушцы часта адлюстроўваецца тое, што з дзіцяці выйшла. Немаўля маглі назваць у гонар святога, дзень памяці якога прыпадаў на дзень нараджэння дзіцяці.**

Такім чынам малое нібы набывала сабе на ўсё жыццё свайго нябеснага заступніка. Маглі таксама даць імя каго-небудзь з продкаў або знаёмых, чые справы і паводзіны былі б прыкладам для таго, хто нарадзіўся.

**У наш час дыяпазон крыніц для выбару імя яшчэ больш пашырыўся: дзяцей пачалі называць у гонар папулярных артыстаў, палітыкаў і нават герояў серыялаў.**

### Чаму Пыпкавы?

Прычын, па якіх чалавек атрымлівае тую ці іншую мянушку, таксама мноства. Нярэдка яна з'яўляецца па якой-небудзь адметнасці, што вылучае таго з шэрагу іншых. Няхай гэта будзе нейкая асаблівасць знешняга выгляду, якісьці фізічны недахоп, нейкі прадмет адзення ці нешта іншае, што адрознівае асобу ад тых, хто яе акружае.

**Да прыкладу, рэдка выпускаў чалавек з зубоў сваю «пыпку» – люльку для курэння – дык не толькі яму, а ўсёй яго сям'і дасталася мянушка Пыпка, Пыпкавы.**

Іншы ж быў надзвычай рослым, ці, як у нас кажуць, цыбатым, дык пачаў называцца Цымбулём, а яго жонка – Цымбуліхай.



Крэўскае вяселле. Пачатак 20 стагоддзя.

Хлопчыка, які малым быў вельмі плаксівым і вечна «дзёр горла», назвалі Гарлачом. Жанчыну, сваімі звычкамі і характарам падобную да коткі, Коткай і клікалі.

**Садзіў чалавек і спажываў многа бобу, яго так і празвалі Бабом, а яго нашчадкаў клікалі Бабамі ці Бабовымі. Відаць, падобнае паходжанне «другога прозвішча» і ў Гарбузоў.**

Груцавы называліся так, бо часта елі груцу – кашу з ячменных круп. Мянушкі Барада, Сівая, Кругленькі таксама гавораць самі за сябе.

### Мянушка, атрыманая ў дзяцінстве, часам суправаджала ўсё жыццё

А вось паходжанне мянушак Сядун, Седуновы растлумачыць не кожны. Мне было вядома, што чалавек, якога так звалі, за «польскім часам» за свае палітычныя погляды быў вязнем Бярозы-Картузскай, інакш кажучы, «сядзеў». І вось ад гэтага слова, на маю думку, і ўтварылася мянушка.

Аказалася, я памыляўся: таго звалі Седуном і да турмы. Як растлумачылі старажылы, мянушка пайшла ад слова, якім раней называлі дзіця, што вельмі позна пайшло хадзіць. Мянушка, атрыманая ў дзяцінстве, не толькі суправаджала чалавека ўсё жыццё, але і перадалася яго нашчадкам.

### Не Салдат, а Салдацік

Мноства варыянтаў тлумачэння можа выклікаць мянушка Салдацік. Аказваецца, што атрымаў яе чалавек за тое, што доўгі час, вярнуўшыся з першай сусветнай, хадзіў у салдацкай вопратцы. Быў ён невялікага росту, таму звалі яго не проста Салдатам, а Салдацікам. І дзяцей яго клікалі Салдацікавымі. Такім чынам, у Крэве пазней пад такой мянушкай хадзіла некалькі сем'яў.

**Бывае, што чыясьці адметнасць перадаецца ў мянушцы не наўпрост, а праз своеасаблівую стылістычную перапрацоўку. Да прыкладу, адну жанчыну па прычыне вялікай колькасці дачок называюць Матрошкай.**

### Пра Антоську Няменькага і Мішаньку Сляпенькага

Часта мянушкі даюцца па нейкіх фізічных недахопах, уласцівых таму ці іншаму чалавеку.

**Цікава, што для нашай мясцовасці такая з'ява была не вельмі характэрнай. Лічылася грэшным засяроджваць увагу на чалавечых хібах, тым больш, даваць людзям з імі крыўдныя прозвішчы.**

Відаць, па гэтай прычыне, калі і з'яўляліся падобныя мянушкі, то ўжываліся яны, найчасцей, у спагадлівай памяншальнай форме, каб не пакрыўдзіць чалавека. Нават сапраўдныя імёны пры іх ставіліся ў той жа форме. Да прыкладу, жылі ў Крэве калісьці Антоська Няменькі і Мішанька Сляпенькі, а прозвішчы іх былі зусім іншымі.

Хаця вядомыя выпадкі і адваротнага. Адна жанчына мела дэфект мовы і не выгаворвала гук «к» – замест слова «карова» казала «арова». Дык яе Аровай так і называлі да канца жыцця. Фізічныя недахопы леглі ў аснову мянушак Шлэп-Нага, Камбала. Чалавека, які быў калісьці паранены, звалі Паламаным.

Спецыфічны дэфект мовы, калі замест гука «л» кажуць «р» паспрыяў, відаць, стварэнню мянушкі Дырда. Але часцей атрымоўваецца наадварот, замест «р» вымаўляюць альбо «л», альбо «г» выбухны. У Крэве гэта вылілася ў мянушку Гыба. Так вымаўлялася адным хлопчыкам слова «рыба».

**Невыразны, але такі забаўны дзіцячы лепет таксама часта з'яўляецца падставай для ўтварэння мянушак. Адна з іх – Абей, Абеевы – з сугучным французскім словам, якое абазначае «пчала», нічога агульнага не мае. Проста гаспадар той мянушкі ў дзяцінстве такім чынам называў вераб'я.**

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**
**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

### 5 КАСТРЫЧНІКА

**1872.** У вёсцы Малі (цяпер Астравецкі раён) памёр **Іосіф Гашкевіч**, дыпламат, мовазнаўца, даследчык Японіі і Кітая, натураліст. Пахаваны ў Астраўцы.

### 6 КАСТРЫЧНІКА

**1517.** У Празе Францыск Скарына выдаў «Прытчы Саламона».

**1745.** Нарадзіўся **Францішак Смуглевіч** (Варшава), жывапісец, графік, педагог, які працаваў у Беларусі, заснавальнік беларускай і літоўскай нацыянальнай школ жывапісу. Памёр 6 (18) верасня 1807 года. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

**1762.** Мястэчка Мядзел атрымала самакіраванне паводле магдэбургскага права.

**1876.** Нарадзіўся **Ян Булгак**, беларускі і польскі майстар мастацкай фатаграфіі, этнограф, фалькларыст.

### 7 КАСТРЫЧНІКА

**230 гадоў** з дня нараджэння **Івана Насовіча** (1788 – 1877), беларускага мовазнаўца, лексікографа, фалькларыста і этнографа.

**1765.** Нарадзіўся **Міхал Клеафас Агінскі**, дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, удзельнік паўстання 1794 года.

### 8 КАСТРЫЧНІКА

**1943.** У савецкім канцлагеры памёр **Андрэй Мрый** (сапраўднае Шашалевіч), пісьменнік. Нарадзіўся ў 1893 годзе.

**1991.** Памерла **Зоська Верас** (сапраўднае Людвіка Сівіцкая, па мужу Войцікава), пісьменніца, грамадска-культурны дзеяч. Пахаваная на могілках Панары ў Вільні. Пражыла 99 гадоў.

### 10 КАСТРЫЧНІКА

**1881.** Нарадзіўся **Ян Тарчэўскі** (вёска Асінаўка, цяпер Ашмянскі раён), грамадскі дзеяч, нашанівец, настаўнік. На нацыянальны грунт Тарчэўскі прыйшоў праз творчасць Францішка Багушэвіча, быў параднёны з Багушэвічавым родам, меў шлюб з Марыяй, дачкой Францішкавай сястры Ганны. Багушэвічаву асобу лічыў узорам служэння Радзіме, узорам грамадзянства. Доўгі час у засьценку Тарчэўскага перахоўвалася Багушэвічава бібліятэка, сямейны альбом, медальёны з імёнамі святых...

### 11 КАСТРЫЧНІКА

**105 гадоў** з дня нараджэння **Эдзі Агняцвет** (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна) (1913 – 2000), беларускай паэтэсы.

**1978.** 40 гадоў назад адкрыты Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Ляўкі». Створаны на базе філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# «Каларытненька». Як у Маладзечне зладзілі свята вуліцы

**29 верасня ў Маладзечне адбылася пілотная прэзентацыя крэатыўнай вуліцы. Супольнасць актыўных гараджан арганізавалася і падрыхтавала свята за некалькі тydняў. У выніку атрымалася месца, куды цягне прыйсці мясцовых жыхароў, і фішка, якую хочацца паказаць гасцям горада.**

Пляцоўка, якую гараджане між сабой называюць «Вуліцай стрыт-фуда», узнікла на тэрыторыі міні-рынку. Падрыхтоўка пачалася 1 верасня на сустрэчы дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць». На ёй сабраліся актыўныя жыхары, каб абмеркаваць, чаго гораду не хапае. Адным з балючых пунктаў было тое, што зусім не сустрэнеш вулічных музыкаў. Не прайшло і месяца, як з'явілася пляцоўка спецыяльна для іх.

Выступіць на свяце прыехаў з Мінска гітарыст **Арцём**. Разам з ім прыехала дзяўчына, студэнтка **Аляксандра Паўленка**:

– Атрымалася душэўна. Тут простыя людзі, душэўныя эмоцыі, хтосьці спявае, хтосьці танцуе.

> **Агулам, каларытненька. Спачатку нечакана, а пасля неяк уліваешся ў гэту атмасферу і ўжо ты тут такі свой.**

Вучаніца гімназіі №10 Маладзечна **Вікторыя Ляўчук** выступіла на сцэне. Дзяўчына расказала, чаму лічыць важным, што з'явілася такая прастора:

– Кожны невядомы музыкант з Маладзечна можа сябе рэалізаваць на такой пляцоўцы, можа паказаць свае таленты. Можа проста пазнаёміцца з новымі людзьмі.

## Надзелі дрэвам шалікі

Вуліца літаральна за дзень ажыла. Можна атрымліваць асалоду ад музыкі, рамантычных гірляндаў, рознакаляровых сцяжкоў, незвычайных артаб'ектаў.

Наколькі гораду не хапала такой прасторы, сведчыць тое, з якім задавальненнем мясцовыя жыхары падпявалі музыкантам, танцавалі, фатаграфаваліся. І тое, з якой ахвотай актывісты далучыліся да ідэі ўпрыгожыць вуліцу.

– Мне хацелася ўнесці нейкі свой маленькі ўнёсак у гэта. Я люблю нешта рабіць сваімі рукамі. Такое свята, захацелася паўдзельнічаць з дзяўчатамі, – падзялілася **Таццяна Семашкевіч**, якая дапамагала ў арганізацыі свята.

За некалькі тыдняў актывісты падрыхтавалі артаб'екты. Музычны ліфт з вязанымі ноткамі – незвычайная фотазона і акцэнт, які заяўляе: цяпер сюды варта прыходзіць, каб слухаць музыку ці выступіць самому. Вязанне скарысталі і для дрэў – зрабілі для іх яркія чахлы, якія нагадваюць шалікі. Хтосьці нёс ніткі, некаторыя вязалі, а іншыя падтрымлівалі.

> **У выніку ў Маладзечне з'явіліся дрэвы, ля якіх прыемна фатаграфавацца і нават з імі абдымацца.**

– Калі мы сёння абвязвалі гэтыя дрэвы, мы пачулі столькі добрых слоў у свой адрас – як гэта добра, як гэта прыгожа, – кажа Таццяна Семашкевіч.

## Для свята абмежавалі рух

Упрыгожаная прастора цікавая для моладзі, бацькоў і дзяцей, сталых людзей. Для камфортнасці на час пілотнай прэзентацыі ДАІ дазволіла зрабіць частку вуліцы пешаходнай. Ці абмяжуюць тут рух у будучым, пакуль невядома.

– Ідэя прэзентацыі вуліцы ў тым, каб даць гэтаму месцу новае жыццё. Каб людзі па-іншаму паглядзелі на гэту прастору. Мы хацелі дабіцца таго, каб зрабіць класнае, крэатыўнае месца, расказвае адна з арганізатараў **Ганна Холад**.

На сцэне выступілі мясцовыя музыканты і запрошаныя з Мінска. А адной з частак праграмы стаў спеўны сход – жыхары разам спявалі вядомыя песні. Ганна тлумачыць, чаму было важным стварыць гэту пляцоўку:

– Каб было месца, дзе музыканты маглі б выступіць у любы момант. Гэта аб'яднанне жыхароў, каб стварыць месца, дзе можна патусавацца, класна правесці час моладзі і дарослым з дзецьмі.

У арганізатараў і актывістаў ёсць задумы, што варта дадаць «Вуліцы стрыт-фуда», каб яна стала яшчэ больш прыцягальнай.

**Калі ў вас ёсць ідэі ці жаданне зрабіць свой горад такім, пра які марыце – далучайцеся да дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць». Яго можна знайсці ў сацыяльных сетках.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** АдсканУйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **bit.ly/vulitsa**





Фота Таццяны САФОНАВАЙ.

Гірлянды з папяровых сцяжкоў адразу зрабілі вуліцу святочнай.



«Музычны ліфт» з вязанымі нотамі.



Выступае музыкант з Мінска Арцём.



На свяце было шмат дзяцей.



Арганізатары і ўдзельнікі фэста «Я – супергерой».



Глеб Рудзько вучыў рабіць капкейкі.



На свяце было хімічнае шоу.



Выстава вырабаў дзяцей.



Віялета Банковіч паказвае, які бранзалет зрабіла на майстар-класе.

Фота Таццяны САФОНАВАЙ.

# «Мы былі па-сапраўднаму РАЗАМ, таму ўсё атрымалася»

## Маладзечанцы правялі інклюзіўны фэст

**У суботу, 29 верасня, у Маладзечне прайшоў інклюзіўны фестываль «Я – супергерой». У школе №8 сабраліся школьнікі і дарослыя, арганізатары і госці, дзеці з інваліднасцю і без – каб пазнаёміцца і разам выдатна правесці час.**

МАЛАДЗЕЧНА

У праграме быў салодкі стол, хімічнае шоу, гульні, выстава вырабаў, што падрыхтавалі дзеці. Саму школу упрыгожыў **Сяргей Кажура**. А вучань 14-й школы **Глеб Рудзько** правёў кулінарнае шоу.

Ідэя зладзіць такі фестываль з'явілася на пачатку верасня, калі актыўныя гараджане сабраліся на першую сустрэчу дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць». Адна з арганізатараў праекта «Маладзечна гаворыць» **Валянціна Сідоркіна** расказвае:

– Праекты, накіраваныя на стварэнне інклюзіўнага грамадства, – гэта жыццёвая неабходнасць. Для людзей з інваліднасцю іх сваякоў. Гэта трэба і тым, хто не сутыкаецца з такімі праблемамі. Яны патрэбныя нам, каб глыбей адчуваць, каб самім вучыцца і вучыць сваіх дзяцей жыць побач з тымі, хто сутыкнуўся з інваліднасцю.

Актывісты вырашылі, што тэмай фестывалю павінны быць супергероі.

– Кожны ўдзельнік на самой справе валодае суперздольнасцямі, кожны таленавіты, умее рабіць тое, што не могуць іншыя. І на фестывалі мы яшчэ раз пераканаліся ў гэтым, – тлумачыць арганізатар.

### Атрымалася, таму што было не ўсё роўна

**Ірына Тархан** – адна з актывістак, што прыйшла на сустрэчу дыскусійнага клуба і актыўна далучылася да падрыхтоўкі. Кажа, што зладзіць свята было зусім не складана, галоўнае, разумець, для каго робіш, і жаданне:

– Я хацела навучыць сваіх дзяцей камунікаваць у інклюзіўным грамадстве, успрымаць дзяцей з асаблівасцямі як звычайных, паважаць іх. Рабілі такое свята ўпершыню. Больш дзейнічалі па інтуіцыі.

Яшчэ адна актывістка **Ганна Сафонава** упэўненая ў тым, што ўсё атрымалася, як і задумвалася:

– Я бачыла, з якой цікавасцю размаўляюць дзеці, якія за межамі гэтага фестывалю нават не пазнаёміліся б. Адкрыліся асаблівыя дзеці, а астатнія атрымалі магчымасць пасябраваць з імі і пазбавіцца ад няёмкага моманту, які мог бы ўзнікнуць. Усё атрымалася, таму што сабраліся людзі, якім не ўсё роўна.

Актывісты адзначаюць, што ў арганізацыі моцна дапамаглі работнікі школы – дырэктар **Аляксей Шарамет**, педагог-арганізатар **Алена Губіч** і іншыя.

### «Гэта неверагодныя эмоцыі!»

**Лілія Струнгару** вельмі ўдзячная, што яе з 14-гадовым сынам Ванем запрасілі на фэст:

– Ваня іграў на акардэоне. Каму мы патрэбныя? Па вялікім рахунку, нікому. Дзякуй за мерапрыемства. Было мора пазітыву. Па тым, што Ваня танцаваў, я зразумела, яму добра. Сказаў, што, канешне, спадабалася.

**Віялета Банковіч** – юная зорка Маладзечна. Дзяўчынка спявае, займаецца творчасцю і ўдзельнічае ў самых розных мерапрыемствах. Яе мама **Таццяна** пастаянна змагаецца за тое, каб інвалідны вазок не замінаў яе дачцэ жыць напоўніцу.

– Інклюзіўнае свята зладзілі найперш для таго, каб дзеці з асаблівасцямі адчулі сябе роўнымі са звычайнымі. На фестывалі яны нічым не адрозніваліся. Знаёміліся, абменьваліся кантактамі і нават пасябравалі. Мы атрымалі неверагодныя эмоцыі! Я бачыла, што маёй дачцэ гэта вельмі трэба.

Сама Віялета адзначыла:

– Было вельмі здорава. Я пазнаёмілася з аднагодкамі. Хочацца, каб такія святы былі часцей.

### «Я чакала гэта свята 22 гады»

**Таццяна Сафонава** сама вучылася ў восьмай школе. Яна адзначыла, наколькі ёй у школьным узросце не хапала чагосьці падобнага:

– У гэтай школе я вучылася. Я была не такая, як усе. Чалавеку з абмежаванымі магчымасцямі складана было вучыцца. Ніколі б не падумала, што праз 22 гады ў гэтай школе адкрыецца першы інклюзіўны фестываль. Вялізны дзякуй дырэктару школы за падтрымку ідэі. Нашы супергерої спявалі, танцавалі, была выстава іх ручных работ.

Валянціна Сідоркіна падзялілася тым, як рыхтавалі свята, каб і іншыя маглі б паўтарыць:

– Перад тым, як нешта рабіць, трэба пераканацца, што гэта неабходна тым, для каго робіш. Мы ведалі, што інклюзіўны фестываль патрэбны, бо яго ідэя належала мамам дзетак з інваліднасцю. Акрамя гэтага, патрэбная каманда. Астатняе, на мой погляд, мае другаснае значэнне. Усё знойдзецца, калі ёсць людзі, якім не ўсё роўна. Знайшлася пляцоўка. Школа дапамагла выдатна падрыхтаваць фестываль. Прадумалі сцэнар, запрасілі вядучых майстар-класаў. У падрыхтоўку і правядзенне ўцягнулі і саміх дзяцей. Я думаю, тым больш задавальнення і карысці прынесла ім гэтае свята.

Калі на сцэне праспявала Віялета Банковіч, Валянціну гэта расчуліла да слёз:

– Я не проста бачыла дзяцей побач, мы былі па-сапраўднаму РАЗАМ. Яны спявалі разам, размаўлялі, удзельнічалі ў майстар-класах, гульнях. Я назірала, што ў іх не было бар'ераў у камунікацыі. Межы сапраўды сціраюцца праз такія мерапрыемствы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Чысць» прайграла «Нафтану»

МАЛАДЗЕЧНА

29 верасня на чысцінскім стадыёне каманда прымала гасцей з Навапалацка.

Адзіны гол на 61-й хвіліне забіў **Юры Лавец**.

Гульня скончылася з лікам 1:3 на карысць гасцей.

Пасля выніку 24 тура застаецца на 15-м радку турнірнай табліцы. У каманды дзесяць ачкоў.

## «Смаргонь» атрымала нічыю

СМАРГОНЬ

29 верасня «Мядзведзі» прымалі пінскую «Хвалю».

Гульня скончылася з нічыйным лікам 0:0. 24-ы тур пакідае каманду на дзясятым радку турнірнай табліцы.

Трэнер **Аляксандр Дварэцкі** пракаментаваў матч для прэс-службы ФК «Смаргонь»:

– Мы згулялі ўнічыю з «Лакаматывам», выйгралі ў «Слоніма», тым самым крыху выправілі становішча перад заўзятарамі і сёння павінны былі перамагаць. Не прымяншаючы вартасці саперніка, ён дазваляў гэта зрабіць. Мы павінны былі даціснуць саперніка, нам патрэбная была сёння перамога, і мы маглі яе здабыць. На другі план сыходзіць гульня, гэтыя арэлі. Эпізадычна мы валодалі ініцыятывай, эпізадычна «Хваля». Так, ачко мы набралі, але незадаволенасць засталася.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» абыграла «Энергетык-БДАТУ»

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда прымала мінскіх гасцей на гарадскім стадыёне 29 верасня.

У вароты «Энергетыка» маладзечанцы забілі тры галы. **Мікіта Дудо** выканаў на 13-й хвіліне, галявы дубль зрабіў **Сяргей Крот** на 16-й і 30-й хвілінах. Гаспадары перамаглі з лікам 3:2.

Маладзечанцы палепшылі становішча на дзве пазіцыі ў турнірнай табліцы і перамясціліся на 11-ы радок.

## Ашмянцы абышлі гаспадароў у Смалявічах

АШМЯНЫ

Ашмянская каманда выступіла ў гасцях са «СМІаўтатрансам».

Ашмянцы перамаглі з лікам 1:4. Галы з боку гасцей забілі **Дзмітры Купнеўскі** на сёмай і 70-й хвілінах, **Дзяніс Хадаронак** на 62-й, **Андрыян Валадзько** на 90-й.

Каманда займае чацверты радок турнірнай табліцы.

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 22 | 19 | 2 | 1 | 72-13 | **59** |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 22 | 18 | 2 | 2 | 65-11 | **56** |
| 3 | Спутник (Речица) | 23 | 15 | 2 | 6 | 61-19 | **47** |
| 4 | Ошмяны-БГУФК | 22 | 15 | 1 | 6 | 62-26 | **46** |
| 5 | Осиповичи | 23 | 11 | 5 | 7 | 46-29 | **38** |
| 6 | Узда | 21 | 10 | 3 | 8 | 46-39 | **33** |
| 7 | Ивацевичи | 22 | 9 | 5 | 8 | 33-32 | **32** |
| 8 | Виктория (Марьина Горка) | 23 | 9 | 3 | 11 | 30-41 | **30** |
| 9 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 23 | 8 | 3 | 12 | 22-45 | **27** |
| 10 | Клецк | 22 | 6 | 4 | 12 | 26-49 | **22** |
| 11 | Молодечно | 23 | 5 | 6 | 12 | 35-51 | **21** |
| 12 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 22 | 5 | 4 | 13 | 27-47 | **19** |
| 13 | Неман-Агро (Столбцы) | 22 | 5 | 4 | 13 | 23-73 | **19** |
| 14 | Горки | 22 | 3 | 6 | 13 | 30-57 | **15** |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 20 | 2 | 2 | 16 | 14-60 | **8** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца другой лігі.

● ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

## Маладзечанцы – сярод пераможцаў мінскага марафону

МАЛАДЗЕЧНА

29 верасня ў Мінску адбылося спаборніцтва, якое арганізаваў клуб аматараў бегу «Залатая восень».

У дыстанцы на кіламетр бегалі дзеткі і сем'і, за што яны атрымлівалі прыемныя падарункі.

У дыстанцы на 21 кіламетр беглі ў розных узроставых групах. Ва ўзроставай групе 60-69 год перамог маладзечанец **Васіль Лябецкі**. У групе 50-59 **Святлана Кошалева** заняла трэцяе месца.

У дыстанцыі на 12 кіламетраў у групе 70+ пераможцам стаў **Аляксандр Цімафеенка**. А ў групе 50-59 другое месца ўзяла **Галіна Кавалёва**.

Цімафеенка перад асноўнай сваёй дыстанцыяй прабег яшчэ кіламетр – разагрэўся – і таксама паказаў найлепшы вынік у групе 75+.

**Аддзел інфармацыі.**



Сяргей Ляшчынскі з камандай дзяўчынак-пераможцаў. Злева направа: Даша Ракецкая, Аліна Южык, Яна Клімовіч, Даша Кісялевіч, Сусанна Канапелька, Насця Бобрык.

# Спартыўная злосць бывае толькі на футбольным полі

## Каманда дзяўчынак-футбалістак маладзечанскай школы №14 перамагла на абласных спаборніцтвах

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлетні верасень прынёс перамогу на абласных спаборніцтвах па міні-футболе камандзе дзяўчынак са школы №14. Спаборніцтвы ладзіліся пад эгідай Міжнароднай федэрацыі футбола.**

Маладзечанскія футбалісткі з лікам 2:0 абыгралі каманду Жодзіна, з лікам 4:0 выйгралі ў Пухавічаў. За першае месца змагаліся з камандай са Старых Дарог і таксама перамаглі.

Маладзечанкі атрымалі граматы і магчымасць паўдзельнічаць у рэспубліканскім турніры ў сярэдзіне кастрычніка, дзе будуць прадстаўляць Мінскую вобласць.

### Узнагарода – форма і мяч

Цяпер футбалісткі ў пятым класе. Займаюцца другі год. Пасля ўрокаў нязменна ходзяць у спартыўную залу на трэніроўкі.

Дзяўчаты маюць досвед выступленняў на рэспубліканскіх спаборніцтвах. Летась сталі пятымі ў рэспубліцы. Кожная дзяўчынка атрымала футбольную форму і мяч.

– Трэніруемся тры разы на тыдзень, – кажа **Сяргей Ляшчынскі**, настаўнік фізічнай культуры, які рыхтуе каманду. – Дзяўчынак набіраў у канцы трэцяга класа. Браў усіх, хто жадаў. У выніку тыя, каму гэта было нецікава, адсеяліся. Атрымалася каманда.

На трэніроўках юныя футбалісткі робяць шмат практыкаванняў з мячом, скачуць, качаюць прэс. Ад гэтага гарманічна развіваюцца. Бацькі падтрымліваюць дзяўчынак, прыходзяць на спаборніцтвы ў Маладзечна, прыязджаюць у Мінск. Нават думалі стварыць у школе спартыўны клас.

### У юных футбалістак – сяброўкі ў кожнай вобласці

Па словах Сяргея Ляшчынскага, 14-я школа ці не з самага адкрыцця ганарыцца сваімі футбалістамі. Два гады запар выступалі ў складзе зборнай каманды Мінскай вобласці па жаночым футболе. За 16 год ёсць шмат значных перамог, некаторыя вучні паступаюць у школу алімпійскага рэзерву.

– У школах, дзе я працаваў, заўсёды стараўся стварыць каманду па жаночым футболе, – кажа Сяргей Ляшчынскі, які 17 год з'яўляецца галоўным трэнерам Мінскай вобласці па жаночым футболе. – Гэта ўжо даўно алімпійскі від спорту. Нават Міжнародная футбольная асацыяцыя выдаткоўвае грошы на спаборніцтвы. Сам футбол заўсёды любіў, займаўся ім яшчэ ад 1990-х гадоў у Маладзечне.



Даша Кісялевіч падчас трэніроўкі.

Трэнер назірае, што дзяўчынкам вельмі падабаецца футбол, яны любяць і дынамічныя трэніроўкі, і паездкі на спаборніцтвы. Дзякуючы спорту, у іх цяпер ёсць сяброўкі ў кожнай вобласці.

А як жа саперніцтва? Па словах трэнера, спартыўная злосць у дзяўчат бывае толькі на футбольным полі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Рызыкоўная нядобрасумленная справа з мэтай выгады, нажывы.
4. На думку Канта, менавіта з яе пачынаюцца любыя веды.
9. Абразлівыя, грубыя словы, выразы.
10. Самы распаўсюджаны цытрус у свеце.
12. Чалавек, які звычайна жыве ў лесе, займаецца лясным промыслам, паляваннем.
13. Шахматная фігура ў форме вежы, якая ходзіць удоўж і ўпоперак дошкі па прамой; тура.
14. Пладародны слой зямлі.
17. Лекар-самавучка, які карыстаецца ўласнымі спосабамі лячэння.
19. Самае распаўсюджанае лісцёвае дрэва.
23. Публічнае выступленне.
24. Паміж Еўропай і Азіяй.
27. Пэўная прастора, што характарызуецца агульнай прыкметай.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Няспешна; марудна.
3. Вуснае апавяданне, якое жыве ў народзе, у дадзенай мясцовасці і перадаецца з пакалення ў пакаленне.
5. Праследаванне таго, хто ўцякае.
6. Які ўмее і можа штосьці рабіць.
7. Пачуццё пачцівасці.
8. Моцны, праліўны дождж.
11. Здольнасць бачыць.
15. Вышэйшая мэта, да якой імкнуцца людзі і якая кіруе іх дзейнасцю.
16. Асноўная раслінная культура Грэцыі.
17. Стан крайняй стомленасці, страты сілы.
18. Яўгенія Янішчыц: «Балючы век. Надвор'я перамена: Яшчэ лісток не ўпаў – а снегапад. Ды … з дзесятага калена Пяе ў душы на блаславёны лад».
20. У афрыканскай народнасці суахілі ёсць легенда, якая расказвае, што першы чалавек спусціўся з неба на зямлю. А дапамагла яму гэта жывёла.
21. Сукупнасць уласцівасцяў пэўнага чалавека, якія складаюць яго індывідуальнасць.
22. Рака ў Брэсцкай вобласці, правы прыток Заходняга Буга.
25. Гусіны тлушч.
26. Прычына злачынства Праметэя.
28. Вечназялёная пахучая расліна з блакітна-фіялетавымі або фіялетавымі кветкамі, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне і парфумерыі.

## Адказы на крыжаванку з №39

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Мора. 5. Шакалад. 6. Трактар. 7. Тлум. 12. Эпатаж. 13. Эбаніт. 15. Егер. 16. Тонус. 17. Шампур. 23. Чаравікі. 24. Чулы. 25. Чытач.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Тамбур. 2. Шкала. 3. Ігла. 8. Дуб. 9. Карамзін. 10. Маланка. 11. Элемент. 12. Экватар. 14. Гогаль. 18. Ганна. 19. Тайна. 20. Шкода. 21. Станік. 22. Традыцыя. 24. Часопіс. 26. Човен.



## ● ГАРАСКОП 5-11 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Прысвяціце больш часу дамашняму ачагу, стварыце ўтульную атмасферу, і гэта палепшыць ваш настрой значна больш, чым якія-небудзь іншыя клопаты.

**ЦЯЛЕЦ.** Ідэі, якія наведваюць вашу галаву, могуць так і не ўбачыць святла, патануўшы ў вашых камфортных умовах. Але калі вы знойдзеце ў сабе сілы да дзеяння, то вынік можа перасягнуць усе вашы чаканні.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вы хочаце даказаць усім сваю значнасць, здольнасці, сілы. Але галоўнае дасягненне – гэта дасягненне ўнутры сябе, а галоўнае прызнанне – гэта прызнанне самога сябе. Калі вы ўсведамляеце сваю сутнасць і значнасць, перш за ўсё, для самога сябе, тады вы зможаце зусім з іншага боку паказаць сябе ў грамадстве.

**РАК.** Дні будуць значныя, варта надаць падзеямі, якія адбываюцца з вамі цяпер, асаблівую ўвагу, бо яны могуць мець уплыў на жыццё яшчэ доўга. Нічога не прапусціце, прыслухоўвайцеся да сябе, уключыце інтуіцыю.

**ЛЕЎ.** Вы знаходзіцеся ў сітуацыі, у якой цяжка прыняць правільнае рашэнне. І справа не ў тым, што нельга ва ўсім разабрацца, а хутчэй у тым, што вы ўжо стаміліся. Дазвольце сабе хоць на кароткі час ні пра што не клапаціцца. Няхай жыццё прымае рашэнні за вас.

**ДЗЕВА.** Вы стараецеся выбудаваць трывалую аснову для свайго жыцця, шмат у чым разлічваючы на добразычлівасць вышэйшых сіл да вас. Але ўдача можа быць пераменлівая. Разлічвайце на свае веды і ўменні – яны заўсёды застануцца з вамі. Абзавядзіцеся надзейнымі сябрамі. І тады ніякія катастрофы ў жыцці не страшныя.

**ШАЛІ.** Каб падтрымліваць камфортныя адносіны з блізкімі вам людзьмі – мала проста карыстацца гэтымі адносінамі. Неабходна прыкладаць нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.

**СКАРПІЁН.** Вам трэба паказаць сябе з лепшага боку. І ў вас гэта атрымаецца. У выніку вы здзейсніце жаданае, знойдзеце магчымасць расслабіцца і атрымаеце асалоду ад радасцяў жыцця.

**СТРАЛЕЦ.** Праявіце ўсю сілу сваёй волі, настойлівасць. Гэты стан карысны для адстойвання сваёй пазіцыі, прасоўвання ідэй і ўвогуле ва ўсіх справах, якія патрабуюць ад вас рашучасці і жорсткасці.

**КАЗЯРОГ.** Перагледзьце погляды на жыццё, на адносіны з іншымі людзьмі, на стаўленне да самога сябе. Мяняйцеся ўнутры, а потым змагайцеся са знешнімі праявамі.

**ВАДАЛЕЙ.** Надайце ўвагу свайму ўнутранаму свету. Цяпер абвастраецца ваша інтуіцыя і здольнасці да вывучэння, пазнання. Каб рухацца наперад больш упэўнена, трэба навучыцца ўраўнаважваць многія працэсы.

**РЫБЫ.** Дні прывядуць вас да сітуацыі, калі вы зможаце павярнуць сваё жыццё ў іншае рэчышча. Вы зразумееце, што ўсё ў жыцці змяняецца і вяртаецца на кругі свая. І тое, што гэтым можна карыстацца, трэба толькі зразумець, як іменна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 5 | 7 | | | | 1 | | |
| 4 | 8 | 3 | | | | 2 | | |
| | | | | | 4 | | 6 | 8 |
| | 1 | | 9 | | 7 | | | |
| | | | 6 | 3 | | 5 | | |
| | | 6 | | 8 | | 9 | | 4 |
| | | 8 | | 1 | | 7 | | |
| 3 | | 2 | | 9 | | | | |
| | | | | | 8 | | 5 | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 5 | 7 | 8 | 2 | 3 | 1 | 4 | 9 |
| 4 | 8 | 3 | 1 | 6 | 9 | 2 | 7 | 5 |
| 9 | 2 | 1 | 7 | 5 | 4 | 3 | 6 | 8 |
| 2 | 1 | 5 | 9 | 4 | 7 | 8 | 3 | 6 |
| 8 | 4 | 9 | 6 | 3 | 1 | 5 | 2 | 7 |
| 7 | 3 | 6 | 2 | 8 | 5 | 9 | 1 | 4 |
| 5 | 6 | 8 | 4 | 1 | 2 | 7 | 9 | 3 |
| 3 | 7 | 2 | 5 | 9 | 6 | 4 | 8 | 1 |
| 1 | 9 | 4 | 3 | 7 | 8 | 6 | 5 | 2 |

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## ● НАДВОР'Е

### 6 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 | | +10 | | +8 | | +13 | |
| | +10 | | +15 | | +17 | | +15 | |
| | 747 | ↗ 6 | 746 | ↗ 6 | 739 | ↗ 6 | 741 | ← 1 |
| Вільня | +3 | | +9 | | +8 | | +6 | |
| | +12 | | +16 | | +17 | | +13 | |
| | 752 | ↗ 6 | 749 | ↗ 6 | 751 | ↗ 6 | 749 | ↖ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 7.23
Захад 18.37
Даўжыня дня 11.24

Усход 3.10
Захад 18.07
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -3,7°С у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +21,2°С у 1985 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 38,5 мм у 1963 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● **З цікавосткамі нямецкай кухні пазнаёмяць на кулінарным майстар-класе ў маладзечанскай бібліятэцы. Гатаваць нацыянальныя стравы будзе сапраўдны кулінар з Германіі. Пра тое, што атрымалася асабліва смачным, чытайце ў наступным нумары.**



## Запрашаем паўдзельнічаць у акцыі «Не губляй ніводнага дня»

Дасылайце на нашу пошту regionnews@rh.by свае лепшыя фотаздымкі, зробленыя за 2018 год. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі радаснымі момантамі года.

Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека. Мы размесцім іх для галасавання на сайце rh.by, і той, хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае падарунак.

З фотаздымкаў мы абярэм адзін, які размесцім на фірменным календары «РГ» на 2019 год. Яго аўтар таксама атрымае падарунак.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма «Рэгіянальнай газеты», рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы да 31 кастрычніка. 1 лістапада мы размесцім на нашым сайце rh.by галасаванне. 19 лістапада абвесцім вынікі акцыі.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі слоў пра фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце «Не губляй ніводнага дня».

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.




Ілюстрацыя забяспечаная Маладзечанскім ГРАНС.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Якім спортам вы хацелі заняцца, і не атрымалася?



**Уладзімір Гладчанка, індывідуальны прадпрымальнік, Валожын:**

– Менавіта ў мяне падобных сітуацый ніколі не ўзнікала. Калі я нешта хачу, то абавязкова зраблю гэта.



**Аляксей Жахавец, стваральнік сайта horodok.by, Маладзечна:**

– Веласпортам хацеў заняцца. Але на трэніроўцы прымушалі рабіць розныя фізічныя практыкаванні, а на ровары не далі пракаціцца. Вось я другі раз ужо не пайшоў.



**Дар'я Мікуліч, эканаміст-менеджар па адукацыі, Маладзечна:**

– Любімым урокам была «фізічная культура». Ездзіла на спаборніцтвы па бегу. Неяк на гарадскім стадыёне мяне заўважыў трэнер ДЮСШ, прапанаваў заняцца прафесійна. Пачала паказваць добрыя вынікі, але здарыліся праблемы са здароўем.



**Аляксей Свірскі, СПА-майстар, лазнік, Маладзечна:**

– Мабыць, футболам, некалі ім захапляўся, настаянна гулялі, мячыкі былі, абутак спецыяльны. Ці кросфітам, але ў рэаліях нашага жыцця, калі «дом-праца», гэта трохі цяжка. Увогуле, фільмаў калі нагледзішся, то і боксам цікава займацца.



**Марына Лапіцкая, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Гадоў у 11-12 хадзіла на акрабатыку. Год пазаймалася і сышла, бо стала часта хварэць. Цяпер хачу пачаць бегаць.



**Кірыл Мазаеў, повар-універсал, Смаргонь:**

– Я пераехаў з іншай краіны. Там займаўся скалалажаннем і альпінізмам, але секцыю закрылі. Ды і не танная гэта справа. Дарагое абсталяванне, вяроўкі. А паездкі ў горы заўсёды былі дарагія, не ва ўсіх ёсць магчымасць выязджаць.



**Мацвей Мучынскі, трэнер фітнес-клуба, Маладзечна:**

– З дзяцінства хацеў займацца армрэслінгам. Прыйшоў запісацца, але сказалі, што здароўе не дазваляе. Не сачыў за выправай, пачаліся праблемы са спінай. Шкада, што пра гэта задумваешся толькі ў сталейшым узросце.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1223) 5.10.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 874. Падпісана ў друк у 9.00 4.10.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.